# ТУТ І ЦЯПЕР

WWW.SVABODABY.NET

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

19.01.12-25.01.12 г.


## МАГІЛЁЎСКІЯ ЧЫНОЎНІКІ



ЗАНЯТЫЯ ВАЖНЫМІ СПРАВАМІ

СТАР. 5

## ГОД КНІГІ



ЯК ЯГО СУСТРАКАЕ БЕЛАРУСЬ

СТАР. 6-7

# ЦІ ПОЙДЗЕ АПАЗІЦЫЯ НА ВЫБАРЫ?

Днямі вядомы апазіцыйны палітык Віктар Івашкевіч абвясціў пра пачатак кампаніі пад лозунгам “Байкот фальшывым выбарам. Скажы Лукашэнку “НЕ!”.

*«Тут і цяпер» вырашыла высветліць, хто з партыйных босаў падтрымлівае кампанію байкоту, і наогул, ці маюць намер прадстаўнікі апазіцыйных партый ісці на парламенцкія выбары.*




*Вось такія ў нас выбары*

### НЕ ГУЛЯЦЬ ПА ПРАВІЛАХ УЛАДЫ

Старшыня Аб’яднанай грамадзянскай партыі **Анатоль Лябедзька** гаворыць, што пытанне паходу на выбары знаходзіцца ў кампетэнцыі партыйнага з’езда, які адбудзецца толькі ўвесну.

— Мы загадзя запланавалі з’езд пад выбарчую кампанію, — гаворыць Анатоль Уладзіміравіч. — На сёння ў нас ёсць рэкамендацыя палітычнай рады — для з’езда і для суб’ектаў палітычнай апазіцыі. Сэнс рэкамендацыі заключаецца ў тым, што нельга гуляць па правілах Ярмошынай і Лукашэнкі. Можна ўдзельнічаць у выбарах толькі тады, калі будуць вызвалены ўсе палітычныя вязні і ўнесены змены ў Выбарчае заканадаўства, якое больш-менш гарантуе справядлівыя выбары. Разам з тым я не падтрымліваю ідэю сядзення на канапе. Лічу, што ігнараваць палітычную кампанію нельга, бо калі мы яе ігнаруем, значыць, нас проста няма. І не трэба лічыць, што людзі чытаюць незалежныя выданні, заглядваюць у інтэрнет і валодаюць інфармацыяй аб тым, чаму мы так робім.

*Заканчэнне на стар. 3*

**МЕРКАВАННЕ ЭКСПЕРТА**

**Думку пра альтэрнатыўны сцэнар удзелу ў выбарах выказвае і вядомы палітолаг Валер Карбалевіч.**

«Байкот магчымы ва ўмовах наяўнасці ў краіне сапраўдных выбараў, — кажа Карбалевіч. — Калі ёсць падлік галасоў, калі нейкая палітычная сіла заклікае не ісці на выбары, і народ не ідзе. У выніку па факце падліку галасоў аказваецца, што на выбары сапраўды прыйшло менш за палову насельніцтва. Улада пра гэта абвяшчае, апазіцыя святкуе перамогу. У нас жа падліку няма: улада агучыць патрэбныя ёй лічбы, апазіцыя назаве свае, у выніку кожны аб'явіць сябе пераможцам. Таму байкот у поўным сэнсе ў Беларусі немагчымы. Можна казаць аб няўдзеле апазіцыі ў выбарах, а гэта розныя рэчы. Удзельнічаць у выбарах паўнавартасна, так, як апазіцыя звычайна ўдзельнічае, напэўна, было б немэтазгодна. Але з іншага боку, не ўдзельнічаць зусім і сядзець дома падчас выбарчай кампаніі, піць чай з варэннем — таксама не самая лепшая тактыка. Трэба шукаць нейкі альтэрнатыўны сцэнар”.

**ПАДЗЕЯ**

## МІЛІЦЫЯ ВЯРНУЛА ТЭХНІКУ ЖУРНАЛІСТКАМ

**18 студзеня журналістка «Нашай Нівы» Таццяна Гаўрыльчык і фотарэпарцёр-фрылансер Юлія Дарашкевіч нарэшце атрымалі забраную ў іх месяц таму прафесійную тэхніку.**

Таццяне Гаўрыльчык міліцыянты вярнулі відэкамеру, Юліі Дарашкевіч – фотакамеру з аб'ектывам і нэтбук. Усе рэчы на першы погляд выглядаюць некранутымі. Адзінае - з іх сцерлі ўсю інфармацыю, датычную акцыі Femen на прыступках КДБ 19 снежня 2010 года.

Вяртанне тэхнікі аказалася нечаканай і прыемнай падзеяй, - прызналася ў гутарцы з БАЖ відэаапаратарка “Нашай Нівы” Таццяна Гаўрыльчык.

“Мы з галоўным рэдактарам Андрэем Скурко пайшлі сёння ў Цэнтральны РУУС, каб даведацца пра лёс забранай месяц таму тэхнікі, а нам кажуць – забірайце”, - распавяла Таццяна Гаўрыльчык.

“Мне пра вяртанне тэхнікі паведаміла Таня. Маўляў, прыязджай, бачыла і тваю камеру там. Аддалі ўсё без пытанняў, і здаецца, там усё на месцы. Спадзяюся, што ніякіх “сюрпрызаў” не пакінулі мне”, - сказала Юлія Дарашкевіч.

З абедзвюх журналістак узялі распіскі, што яны не маюць прэтэнзій да стану тэхнікі.

Нагадаем, месяц Юлія Дарашкевіч і Таццяна Гаўрыльчык былі пазбаўленыя магчымасці выконваць прафесійныя абавязкі, чакаючы, калі скончыцца праверка МУС.

**ПРЭС-СЛУЖБА ГА «БЕЛАРУСКАЯ АСАЦЫЯЦЫЯ ЖУРНАЛІСТАЎ»**

# НАКОЛЬКІ ХОПІЦЬ НАШЫХ ЗОЛАТАВАЛЮТНЫХ РЭЗЕРВАЎ?

**СТАНІСЛАЎ БАГДАНКЕВІЧ, ЭКАНАМІСТ:**

## "ГЭТА РЭЗЕРВЫ ДЛЯ ВЫПЛАТЫ ДЗЯРЖАЎНЫХ ДАЎГОЎ".

— Трэба мець на ўвазе, што золатавалютных рэзерваў у Нацыянальным банку сапраўды каля 8 мільярдаў долараў, але пры гэтым у камерцыйных банкаў — мінус 3,7 мільярда. Калі гэтыя рэзервы скласці разам, то атрымаецца недзе каля 4 мільярдаў у плюсе. Увогуле рэзервы не вельмі патрэбны для падтрымання валютнага курса, калі гэты курс вызначаецца на аснове попыту і прапанавання, як гэта аб'яўлена. Рэзервы выкарыстоўваюцца толькі для спынення спекуляцый. А калі курс расце таму, што экспарт меншы за імпарт, то тут патрэбны не рэзервы, а сур'ёзныя эканамічныя меры.

Таму мая пазіцыя такая. Наўрад ці нам трэба крэдыты (часам дарагія, напрыклад, як крэдыт Ашчадбанка Расіі) заганяць у рэзервы, захоўваць у СКВ ці каштоўных паперах ЗША пад нізкі працэнт і страчваць на гэтым. Грошы, якія мы атрымліваем у выглядзе крэдытаў, трэба выкарыстоўваць на развіццё, тэхналагічнае пераўзбраенне, павышэнне ўзроўню вытворчасці, зніжэнне энергаёмістасці. Расповедамі пра вялікія рэзервы намагаюцца супакоіць, збіць паніку.

На гэты год грошай дзяржаве павінна хапіць.

**ЮЗЭФА АНТАНОВІЧ, ПЕНСІЯНЕРКА (МАЛАДЗЕЧНА):**

## "ДЫК ХАЙ БЫ ПАДЗЯЛІЎСЯ!"

— Во, аказваецца, якія мы багатыя сталі! У сямідзясятыя і васьмідзясятыя я зусім не ведала, колькі тых рэзерваў у Савецкага Саюза. Затое ведала, што грошы, якія я паклала "на кніжку", не згараць ні за год, ні за два. А зараз у нас у казне агромністыя мільярды, а я не магу толкам "дамавінныя" захаваць. Хай бы ўлада падзялілася валютнымі мільярдамі з тымі, у каго рахункі ў "зайцах" пагарэлі.

**МІХАІЛ ЗАЛЕСКІ, ЭКАНАМІСТ:**

## "ГЭТА НАМАЛЯВАНЫЯ ГРОШЫ".

— Па сваіх даўгах мы павінны выплачваць усё астатняе жыццё — колькі будзем існаваць, столькі будзем і "абслугоўваць" замежныя пазыкі, таму што занадта многа набралі даўгоў. А рэзервы гэтыя ў значнай ступені намаляваныя, а не рэальныя.

**ВЕРАНІКА МАТУСЕВІЧ, ПРАДПРЫМАЛЬНІЦА (ГРОДНА):**

## "ДА ЭКАНАМІЧНАГА РОСТУ ГЭТЫЯ РЭЗЕРВЫ НЕ МАЮЦЬ НІЯКАГА ДАЧЫНЕННЯ".

— Для народа галоўным індыкатарам эканамічнага дабрабыту з'яўляецца курс. Гэты індыкатар, насамрэч, мае мала дачынення да стану эканомікі. На самай справе, галоўнымі індыкатарамі з'яўляюцца беспрацоўе, эканамічны рост, інфляцыя. Курс нічога не значыць. Больш за тое, экспартна-арыентаваным эканомікам вельмі выгадны нізкі абменны курс. Калі ў Кітая падае юань, амерыканцы ледзь ці не бамбіць іх збіраюцца за такі акт агрэсіі. А для беларусаў самым важным паказчыкам ёсць курс. Але наяўнасць золатавалютных рэзерваў з курсам ніяк не звязана, і траціць рэзервы на падтрымку курса — гэта поўны ідыятызм. Золатавалютныя рэзервы — гэта не тыя грошы, якіх павінна на нешта хапаць. Гэта грошы, якія паказваюць устойлівасць эканомікі, гэта запіс на рахунку. І калі яны ў цябе ёсць, то табе ахвотна дадуць крэдыт. І крэдыты браць трэба. Таму трыльённыя даўгі ў выглядзекрэдытаў у вялікіх эканоміках ЗША, Кітая, Японіі — гэта не паказчык таго, што яны па глупстве панапазычалі. Гэта сведчыць аб тым, што яны найбольш эфектыўна імі распараджаюцца. Наяўнасць золатавалютных рэзерваў толькі разам з астатнімі індыкатарамі з'яўляецца важнай рэччу. А тое, што мы чуем ад Лукашэнкі, — проста супакаенні, маўляў, "у нас многа грошай, не хвалюйцеся". Пачуўшы такія словы, я спачатку ўзрадавалася б, што ў нас ёсць такія рэзервы, а потым бы спалохалася — навошта пра гэта гаварыць? І, такім чынам, не знайшла б прычыны для радасці, бо хаджу ў магазіны і бачу, што інфляцыя прэ і прэ. Нельга казаць пра рост, калі ён забяспечваецца інфляцыяй, беспрацоўем (чалавек, які працуе за мільён, беспрацоўны) і рыззем, якое на складах з'ядуць пацукі. І вось гэта мяне сапраўды хвалюе.

**ВІТАЛЬ, СТУДЭНТ:**

## "МАІХ ЗОЛАТАВАЛЮТНЫХ РЭЗЕРВАЎ ХОПІЦЬ СЁННЯ НА ПІВА".

— Асабіста мне маіх золатавалютных рэзерваў хопіць сёння на піва. Вось бы крыху аб'яднаць мае і ягоныя рэзервы! Але я хутчэй з'еду з роднай краіны, чым дачакаюся хоць якога адчувальнага росту сваіх запасаў.



*Золата быццам шмат у нас. Але гэта быццам*

**ЛІЧБЫ**

## МОРА АПТЫМІЗМУ

**Беларусь валодае дастатковымі золатавалютнымі рэзервамі для падтрымання стабільнасці нацыянальнай валюты. Пра гэта сёння заявіў кіраўнік дзяржавы Аляксандр Лукашэнка ў ходзе рабочай сустрэчы з кіраўніком Нацбанка Надзеяй Ермаковай, паведамілі БелТА ў прэсслужбе беларускага лідара.**

*«Золатавалютныя рэзервы ў нас упершыню ў гісторыі дастатковыя для таго, каб падтрымліваць любы курс нацыянальнай валюты. Але ён павінен быць абгрунтаваным, разумным, як мы дамаўляліся, і абавязкова свабодным»*, — падкрэсліў А.Лукашэнка.

Надзея Ермакова паведаміла прэзідэнту, што сітуацыя на валютнай біржы і ў банкаўскай сістэме ўвогуле складваецца нядрэнна. Па стане на 1 студзеня 2012 года, золатавалютныя рэзервы сфарміраваны ў суме $ 7,9 млрд па міжнародных стандартах.

# ЦІ ПОЙДЗЕ АПАЗІЦЫЯ НА ВЫБАРЫ?

*Заканчэнне. Пачатак на стар. 1*

Інфармацыі ўсё роўна не хапае. Таму мы не прывязваем сваю дзейнасць да выбарчай кампаніі, і нашы планы на бягучы год не будуюцца на выбарчай кампаніі. Ідзе сістэмная праца з людзьмі. На дадзены момант стаіць такая задача: трэба, каб тое, што робіць апазіцыя, было зразумелым для простых людзей. Можа, варта прыняць удзел у выбарах, а потым зняць усіх кандыдатаў, але абавязкова выкарыстаць мажлівасць таго, каб хоць на пяць хвілін кандыдат у дэпутаты трапіў у тэлеэфір. Пры гэтым можна не браць ніякіх рэсурсаў ад дзяржавы, таму што калі ўзяў, то ты ўжо на кручку.

Пакуль партыя катэгарычна супраць таго, што было ў папярэдніх кампаніях. Мы больш не гуляем у такія гульні. Але я лічу, што байкот таксама дрэнны варыянт, аднак іншага варыянта пакуль не знайшлі. Мы далі даручэнне нашай крэатыўна-аналітычнай групе, каб яна распрацавала спіс сцэнарыяў, якія могуць быць: удзел у выбарах, байкот, нейкі сінтэз. Трэба ўзважыць усе станоўчыя і адмоўныя бакі.

Канчатковую кропку ў пытанні наконт выбараў паставіць з'езд партыі, які адбудзецца ў сакавіку — красавіку. Хаця мяркую, што рашэнне пра ўдзел у выбарах будзе прынята раней: дэ-факта яно выкрышталізуецца бліжэй да канца студзеня, а юрыдычна аформіцца ўжо на з'ездзе.

## ЗА БАЙКОТ УЛАДА СКАЖА ДЗЯКУЙ

**Беларуская партыя левых “Справядлівы свет” таксама пакуль што не вызначылася з выбарамі і зараз актыўна шукае адказ на іншае пытанне: калі не ісці на выбары, то чаму? Што гэта дасць?**

“Мы пакуль што не прымалі канчатковага рашэння наконт выбараў, як і ўся апазіцыя, наколькі мне вядома, — кажа лідар партыі **Сяргей Калякін**. — Усё будзе вырашацца ў бліжэйшы час. Думаю, да першай дэкады лютага ўсе вызначацца. А пакуль гэтае пытанне знаходзіцца ў стадыі абмеркавання. Ёсць людзі, якія выступаюць, дапусцім, з ідэяй байкоту — хоць, на мой погляд, у нашых умовах ён проста нерэальны. Я сам прыхільнікам байкоту не з'яўляюся, але яшчэ раз кажу, што партыя пакуль што не прыняла канчатковага рашэння па гэтым пытанні. Мы вызначыліся толькі з тым, якія мэты будзем ставіць падчас палітычнай кампаніі «выбары ў Палату прадстаўнікоў». Мы не лічым, што ў Беларусі ёсць выбары, але разам з тым ведаем, якія мэты можам для сябе паставіць і што можна вырашаць у рэальных палітычных умовах”.

Як вядома, выбары прызначаны на верасень, а апазіцыя яшчэ не вызначылася, ці ўдзельнічаць у выбарчай кампаніі. Ці паспеюць падрыхтавацца да нармальнай кампаніі?

“Не буду “казаць за ўсю Адэсу”, але наша партыя шырокамаштабна рыхтуецца да выбараў ужо з моманту завяршэння папярэдняй парламенцкай кампаніі, — адказвае Калякін. — Калі прымем рашэнне ісці на выбары, то адразу будзем ведаць, хто пойдзе і па якіх акругах. Калі не пойдзем, то тады павінны вызначыцца, чаму. На гэтае пытанне, на жаль, адказу ніхто не дае. “Байкот” — прыгожае слова, але за ім нічога няма. І рэсурсаў на байкот трэба больш, чым на выбары. Але самае галоўнае — незразумела, што мы атрымаем на выхадзе; якія праблемы вырашым, абвясціўшы байкот. Мне здаецца, у дадзеным выпадку мы проста дапаможам уладзе арганізаваць выбары, як казаў Лукашэнка, “па паняццях” сярод сваіх кандыдатаў: можна сумленна лічыць галасы, не трэба нічога фальсіфікаваць, можна смела склікаць міжнародных назіральнікаў — яны зафіксуюць, што ўсё было чыста і прыгожа. Улада толькі дзякуй скажа апазіцыі за байкот!”




*Усе не злодзеі, канешне. Праўда, асадак застаецца ўжо якія выбары*

## МАСТАЦКІ СВІСТ

Сакратар Цэнтрвыбаркама **Мікалай Лазавік** сваю пазіцыю тлумачыць выразна: любая палітычная партыя ствараецца не для таго, каб хадзіць з лозунгамі па вуліцах, а для таго, каб змагацца за ўладу.

“Змагацца за ўладу можна рознымі шляхамі, але законным і легітымным з'яўляецца толькі адзін — выбары, — кажа юрыст. — І калі партыя адмаўляецца ад удзелу ў выбарах, значыць, яна адмаўляецца ад адзінага шляху дасягнення сваіх праграмных мэт. Усё астатняе — мастацкі свіст”.

## У ПОШУКАХ ФАРМАТУ

**Намеснік старшыні партыі БНФ экс-кандыдат на прэзідэнцкую пасаду Рыгор Кастусёў выступае за тое, каб усе партыі праявілі актыўнасць падчас выбарчай кампаніі.**

“Я разглядаю і вылучэнне кандыдатаў, і актыўны байкот выбараў як работу ў выбарчай кампаніі, — гаворыць Рыгор Андрэевіч. — Я супраць таго, каб нічога не рабіць. На апошнім сойме партыя БНФ разглядала пытанне выбараў, і меркаванні на гэты конт падзяліліся 50 на 50. Я сам да канца яшчэ не вызначыўся, але мая пазіцыя такая: партыя павінна актыўна працаваць”.

Канчаткова з удзелам у выбарах БНФ вызначыцца на студзеньскім сойме.

“На маю думку, партыя павінна прыняць удзел у кампаніі, ісці да людзей, даносіць сваю пазіцыю, — гаворыць палітык. — Трэба казаць людзям і пра тое, што выбары фальсіфікуюцца. Я ведаю, что амаль ва ўсе мінулыя парламенцкія кампаніі каля 70 адсоткаў выбаршчыкаў успрымалі выбары як справядлівыя і сумленныя, і толькі каля 30 працэнтаў лічылі, што праблемы ёсць. І калі мы не распавядзём людзям пра фальсіфікацыі, не давядзём да іх сваю пазіцыю, то 70 адсоткаў зноў скажуць, што выбары былі сумленнымі… Таму я за тое, каб удзельнічаць у выбарчай кампаніі, а вось у якім фармаце — пытанне пакуль што адкрытае”.

**МАРЫНА МІТ**

# АЛЬБО НУЛЬ, АЛЬБО — У МІНУСЕ

Прагназуецца, што калі стаўкі адзінага падатку павялічацца і вырасце арэнда, то рынкі ўвогуле апусцеюць.




Прадпрымальнікаў чакае чарговае выпрабаванне: будуць павялічаныя стаўкі адзінага падатку. Наколькі дакладна, пакуль не вырашана. Але ўжо ідуць размовы пра павелічэнне ў 2,5-3 разы

Паводле словаў старшыні рэспубліканскага грамадскага аб'яднання прадпрымальнікаў "Перспектыва" **Анатоля Шумчанкі**, сёння памер адзінага падатку на нехарчовыя тавары складае каля 1 мільёна 200 тысяч. І калі яго павялічыць ў два-тры разы, то гэта стане непад'ёмнай для большасці сумай.

**Анатоль Шумчанка:** *"1 мільён 200 — гэта, магчыма, невялікія грошы для чыноўнікаў, а для прадпрымальнікаў гэта нармальная сума, з улікам таго, што пакупніцкая здольнасць зменшылася ў дзесяткі разоў і гандлю ніякага няма. Не трэба забываць, што сярэдні заробак у краіне зараз складае каля 250 долараў".*

Павялічваць кошт тавару, каб кампенсаваць выдаткі на выплату новага падатку, прадпрымальнікі не змогуць — і так людзі амаль перасталі нешта набываць. А значыць, робіць выснову Шумчанка, скароціцца іх прыбытак і большасць проста абанкруцяцца.

Ніна Міхайлаўна трымае на "Ждановічах" дзве гандлёвыя кропкі з вопраткай, плаціць амаль 1 мільён 300 тысяч адзінага падатку. Пра магчымае павелічэнне збораў думае з жахам — і так прыбытку ніякага няма!

**Ніна Міхайлаўна:** *"Да нас людзі зусім перасталі ездзіць. Яшчэ ў выходныя нехта недзе ходзіць, а ў будныя дні продажу ўвогуле няма! У мяне дзве гандлёвыя кропкі. На мінулым тыдні на адной кропцы прадалі 4 адзінкі тавару, 5 — на другой. І гэта не таму, што ў мяне няма тавару ці ў мяне дрэнны тавар — такі гандаль ва ўсіх. Заробак бывае альбо роўны нулю, альбо — у мінусе. У снежні-студзені будзе канкрэтны мінус!"*

Жанчына расказвае, што шмат яе калег ужо сышлі з бізнэсу, а калі адзіны падатак будзе павялічаны, то і яна вымушана будзе закрыцца.

Але не толькі павелічэнне падатку палохае гандляроў, дзеліцца прадпрымальніца **Кацярына Чыжык**. Яна самага балючага ўдару ад дзяржавы чакае пасля таго, як базавая стаўка павялічыцца з 35 да 100 тысяч рублёў. Што ў сваю чаргу прывядзе да павялічэння кошту арэнды.

**Кацярына Чыжык:** *"Сёння найбольш страшэнны бізун для прадпрымальніка — арэндная плата. У гандлёвым цэнтры "Паркінг" у мяне 20 квадратных метраў і я плачу 11 мільёнаў у месяц. І гэта я плачу сёння, пры базавай стаўцы 35 тысяч. А калі стаўка стане 100, то ўявіце, на колькі вырасце арэнда! Ці рэальна сёння прадпрымальніку заплаціць 30-33 мільёны за 20 квадратных метраў? Якім ён павінен быць багатым, якім мільянерам і якія павінны ў яго быць продажы!"*

Але ж адзіны падатак — гэта яшчэ не ўсё, працягвае прадпрымальніца.

**Кацярына Чыжык:** *"Прадпрымальнікі працуюць не толькі з беларускім таварам, але і з імпартным. Апроч стаўкі адзінага падатку, яны плацяць фіксаваны ПДВ, які складае 150 еўра. І гэта сур'ёзны падатковы цяжар".*

Дарэчы, такога падатку на імпартныя тавары не маюць калегі беларускіх прадпрымальнікаў па Мытным саюзе — расійскія ды казахскія гандляры ад яго вызваленыя.

Апроч гандлю, Кацярына Чыжык займаецца грамадскай дзейнасцю — яна намеснік старшыні Беларускага саюза прадпрымальнікаў. Таму яе развагі не абмяжоўваюцца скаргамі на жыццё сябрам і журналістам. Згодна з яе словамі, ужо падрыхтаваныя прапановы ўраду па аказанні падтрымкі дробнаму бізнэсу. Галоўнае ў іх — адмена гэтага падатку на імпартны тавар, калі ўжо павелічэння адзінага падатку пазбегнуць не ўдасца.

Са свайго боку Анатоль Шумчанка прапаноўвае дзяржаве павялічыць ўсім беларусам заробкі ў 2,5-3 разы, каб кампенсаваць падвышэнне адзінага падатку для прадпрымальнікаў. Інакш, пагражае, яны будуць змагацца за свае правы. Праўда, не ўдакладняе — як.

**ЗМІЦЕР ЛУКАШУК**

# 1 МІЛЬЁН НА ТРАІХ

Інтэрнат для "вольных пасяленцаў", якія адбываюць "хімію" ў вёсцы Куплін пад Пружанамі, даражэе амаль ў два разы.

Зараз аплата камунальных паслуг будзе каштаваць 340 тысяч з чалавека. Пра гэта Еўрарадыё распавёў Павел Севярынец.

**Павел Севярынец:** *"Учора нас папярэдзілі, што кошты за інтэрнат, камуналка, павялічваюцца яшчэ больш, чым у два разы. У лістападзе было 40 тысяч, потым стала 160, а зараз будзе 340 з чалавека за месяц. Кажуць: "Вось, такія зараз кошты, такая камуналка — газ, вада". Хаця, вада іржавая, гарачай няма. Але мы ў трох павінны будзем плаціць за свае 12 метраў 1 мільён".*

За сваю працу на складзе Павел атрымлівае каля 1 мільёна заробку і таму для яго 340 тысяч камуналкі — не "смяротная" сума. Тым больш, што яшчэ атрымлівае нейкія ганарары за матэрыялы ў СМІ, прадукты яму прывозяць родныя і сябры. А вось як будуць выжываць тыя, хто мае значна меншыя заробкі, вымушаны з гэтых грошай выплачваць зыскі ды аліменты, а яшчэ і харчавацца, сустаршыня аргкамітэта па стварэнні партыі "Беларуская хрысціянская дэмакратыя" нават не ўяўляе.

# ЧЫМ ЗАНЯТЫ МАГІЛЁЎСКІЯ ЧЫНОЎНІКІ

Старшыня камітэта па працы, занятасці і сацыяльнай абароне насельніцтва аблвыканкама Святлана Тарасенка лічыць, што адной з асноўных задач яе ведамства з'яўляецца "накіраванне абавязаных асоб (гэта тыя, хто пазбягае ўтрымання ўласных дзяцей — Рэд.) на рабочыя месцы, што дазваляла б ім кампенсаваць затраты, якія дзяржава нясе па ўтрыманні іх дзяцей".

## "ПРАВІЛЬНАЯ" АДНАБОКАСЦЬ

Такое яе сцвярджэнне чорным па беламу надрукавана на сайце аблвыканкама.

Ва ўсім жа свеце, як вядома, лічыцца, што абавязкам і задачай сацыяльных службаў ёсць дапамога сацыяльна неабароненым людзям — інвалідам, састарэлым, якія застаюцца без нагляду, дзецям-сіротам і малазаможным грамадзянам. Пра такую скіраваную дапамогу ў нас чуваць значна менш, чым цяпер вось пра гэтых "абавязаных асоб".

А ў гэты час у абласным цэнтры пра людзей, што ў выніку жыццёвых абставін літаральна апынуліся на вуліцы, з усіх ведамстваў і службаў пасапраўднаму клапоціцца дабрачынная Хрысціянская місія "Табея", што дзейнічае тут ужо 20 гадоў. Тут ёсць сталоўка для нямоглых і бяздомных, прытулак; тут бясплатна раздаюць адзенне, пабытавыя рэчы і прадукты. Сёлета місія мае на мэце адкрыццё для бяздомных начлежнага прытулку. Не чуваць, каб з такой ідэяй выступіла абласная дзяржаўная сацыяльная служба. У яе на гэты год, як вынікае з прызнанняў кіраўніцы, зусім іншыя прыярытэты.

## І НІ СЛОВА ПРА ЛУЖЫНУ "ІМЯ ПРАКОПАВА"

Начальнік упраўлення ідэалагічнай работы аблвыканкама Андрэй Кунцэвіч прапанаваў дзяржаўным раённым газетам перайсці сёлета з двухразовага выпуску ў тыдзень на аднаразовы. Прапанова прагучала на яго прэс-канферэнцыі па выніках мінулага года. Ідэалагічны кіраўнік не патлумачыў эканамічных прычын такога пераходу (хаця яны відавочныя — памкненне скараціць бюджэтныя выдаткі на ўтрыманне раёнак), спаслаўшыся толькі на прафесійныя прычыны, так бы мовіць. Маўляў, чытачу больш прыемна атрымліваць "сур'ёзную газету раз у тыдзень", чым два выпускі малога аб'ёму, якія не дазваляюць падаць змястоўную інфармацыю. А вось на 12-ці старонках (а зараз выпускі раёнак у большасці сваёй дзеляцца на 4-х- і 8-старонкавыя) можна змясціць "салідную інфармацыю". Маўляў, такі эксперымент напрыканцы года ўдала ажыццявіў хоцімскі "Шлях Кастрычніка", вынікам чаго стала павелічэнне колькасці падпісчыкаў. "Начальнік ідэалогіі" прамаўчаў наконт таго, што падпіска ў многіх раёнах на большасць дзяржаўных выданняў кантралюецца, як гэта ў нас прыгожа называецца, з дапамогай адпаведных лістоў з выканкамаў і распараджэнняў, якія непасрэдна атрымліваюць ад свайго начальства паштовыя работнікі.



*"Вертыкаль" застаецца "вертыкаллю"*

Такім чынам, усе разумеюць, што клопат пра змест выданняў тут, шчыра кажучы, не пры чым. Калі б было так, то сп. Кунцэвіч пакрыткаваў бы раёнкі за іх зусім недастатковы клопат пра забеспячэнне інфармацыйных патрэб чытачоў, якія ў сваіх раёнках ніколі не могуць прачытаць пра тое, чым жывуць у рэгіёне іншыя грамадскія сілы, аб'яднанні і арганізацыі, акрамя тых, што непасрэдна адносяцца да ўладных структур кшталту БРСМ ці "Белай Русі". А вось хоць бы і ў тым самым Хоцімску даволі актыўна падаюць сябе раённая суполка БНФ і раённая філія кампаніі "Гавары праўду". Пра іх у газеце ні слова. Няма ў раёнках ніякіх дыскусій і абмеркаванняў. У Крычаве, напрыклад, шмат год гаворыцца пра знакамітую лужыну "імя Пракопава" (да нядаўняга часу старшыню тамашняга райвыканкама), але гэтую тэму старанна абыходзіла раённая газета "Крычаўскае жыццё", час ад часу толькі падаючы на гэты конт "правільныя рашэнні" мясцовай улады, ніколі не спытаўшы ў чыноўнікаў за іх выкананне.

Пра гэтыя факты ў Хоцімску і Крычаве людзі ведаюць толькі з публікацый у мясцовых недзяржаўных, незарэгістраваных маланакладных газет, якія ўлада, дарэчы, упарта не прызнае, не акрэдытуе і шмат год не дае ім займець афіцыйны статус.

Выглядае, што з кабінета "начальніка ідэалогіі" сапраўды бачна толькі адна праблема — пераходу на выпуск раёнак адзін раз у тыдзень…

**ІВАН БАРЫСАЎ**

# «ВАМ ЦЯЖЭЙ, ЧЫМ МНЕ ...»

Як паведаміла рэдакцыі «Бобруйского курьера» маці журналіста гэтага выдання, палітвязня Яўгена Васьковіча, 18 студзеня ў яе адбылася гадзінная сустрэча з сынам.

Сустрэча прайшла ў магілёўскай турме № 4, куды Яўген Васьковіч быў пераведзены з папраўчай калоніі ў кастрычніку мінулага года.

Рушанія Васьковіч распавяла, што размаўлялі яны з сынам праз шкляную сцяну, па тэлефоне. Рушанія Іванаўна пераказвала, што, убачыўшы яе, сын знервуецца, але ён трымаўся вельмі добра.

Яўген крыху схуднеў, але выглядае бадзёра, у добрым настроі; як заўсёды, усміхаецца. Менавіта за гэтую незалежную ўсмешку ён часта і пакутуе: адміністрацыі – спачатку калоніі, а цяпер – турмы яна не падабаецца, і яго нярэдка караюць штрафным ізалятарам.

Васьковіч перадаў велізарную падзяку за лісты і паштоўкі са словамі падтрымкі на яго адрас (у тым ліку ад сябраў БАЖ). А таксама папрасіў, каб разам з лістамі высылалі яму канверты. Дзякуючы атрыманай незалежнай прэсе, Яўген ў курсе ўсіх навін у краіне. Казаў, што на волі цяпер цяжэй, чым яму.

Кароткатэрміновае спатканне Васьковічу дазволена раз у год. А перадачы яму пакуль забаронены.

Нагадаем, 20-гадовы Яўген Васьковіч атрымаў сем гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму за кінутую ў бок бабруйскага КДБ бутэльку з «кактэйлем Молатава». Нанесеная шкода – 253 тысячы беларускіх рублёў.

Таксама сямігадовы тэрмін па гэтай справе адбываюць працоўны Павел Сырамалотаў і студэнт Арцём Пракапенка. Яны таксама прызнаныя палітвязнямі.

# ЯК БЕЛАРУСЬ СУСТРАКАЕ

Міні-досвед выдання "Тут і цяпер" паказаў — цікавых і вартых чытання ды перачытвання кніг пра Беларусь як для саміх беларусаў, так і для гасцей з іншаземных абласцей катастрафічна не хапае.



*Як ні дзіўна, нам не хапае нармальных кніг*

## ПОМПА БУДЗЕ, А ВОСЬ АСТАТНЯЕ…

Як вядома, бягучы год афіцыйна абвешчаны ў Беларусі Годам кнігі. У самай сціслай расшыфроўцы гэта значыць, што з помпай будуць адзначаны ўсе магчымыя юбілеі класікаў, пройдзе мноства кніжных выстаў, члены афіцыйнага Саюза пісьменнікаў пачасцяцца ў глыбінку на сустрэчы з чытачамі, асабліва "заслужаным" дадуць чарговыя прэміі.

**А вось што перападзе радавым чытачам і тым замежнікам, якія хочуць даведацца пра нашу Айчыну больш?**

Мы вырашылі здзейсніць адмысловы рэйд па сталічных кнігарнях. Ён пакінуў, мякка кажучы, ніякаватае ўражанне. Нават у цэнтральнай кніжнай краме на цэнтральным праспекце Мінска літаратуры беларускім аўтарам, на беларускай мове або проста пра Беларусь адведзены сціплы закутак, сумешчаны з сувенірным аддзелам. Калі, безумоўна, не адносіць да беларускай літаратуры такую паліграфічную прадукцыю, як насценныя календары з выявамі Мінска з розных ракурсаў і маляўнічымі краявідамі краіны, зборнікі правілаў дарожнага руху і шматлікія даведнікі, карты ды атласы, сярод якіх, напрыклад, знаходка для шпіёна — карта распрацоўкі карысных выкапняў у Беларусі.

Хлусіць не будзем — выбраць у падарунак сябру-турысту тут ёсць што: ад недарагіх сімпатычных беларуска- і англамоўных паштовачак (7—15 тысяч рублёў) да шыкоўнага — у скураной вокладцы з золатам — альбома "Скарбы Беларусі" (350 тысяч рублёў) або выдатнага па якасці і выкананні альбома "Чарнобыль" (240 тысяч рублёў). Багата фотаальбомаў на розныя густы: прырода, помнікі архітэктуры, палацы і храмы, гарады і людзі… Хапае таксама агітацыйна-прапагандысцкіх шэдэўраў кшталту "Рэспубліка Беларусь. Час дзеянняў і пераўтварэнняў" і "Мы дзеці твае, Беларусь".

А вось мастацкія выданні класікаў і сучаснікаў занялі добра калі два стэлажы і не вытрымліваюць канкурэнцыі не тое што з маляўнічай "сувеніркай", а і са зборнікамі фэнтэзі ды жаночымі дэтэктывамі. Не дзіўна, што найчасцей у гэтым аддзеле пакупнікі запытваюць… драўляныя і металічныя сувеніры-магнікі з сімволікай беларускіх гарадоў.

За гадзіну, праведзеную ў кнігарні, толькі двое наведвальнікаў замовілі "апавесці Караткевіча на беларускай мове" і "які-небудзь альбом".

Такую ж карціну можна ўбачыць і ў іншых буйных кнігарнях — большасць стэндаў беларускіх выдавецтваў выглядаюць экскурсіяй у савецкія часы, кнігі сучаснікаў губляюцца на фоне кідкіх вокладак Уліцкай, Пялевіна, Муракамі, а ў аддзелах для турыстаў наведвальніка "дабіваюць" залачоныя абрэзы бясконцых фотаальбомаў "Мая Любаншчына", "Зямля сілы. Белавежская пушча" ды выявы дзяржаўнага герба "з гіБсу пад пазалоту".

Складваецца ўстойлівае адчуванне, што ў Год кнігі чытаць нам і няма чаго…

**ДАРЭЧЫ**

**"Менавіта ў букіністычных крамах можна прыдбаць рэдкія выданні або, напрыклад, зборнік Караткевіча па цане 2-3 боханаў хлеба".**

## "ЗДРАБНЕЛІ СЁННЯ АЎТАРЫ"

"Сучасная літаратура знаходзіцца не ў самых спрыяльных умовах, у многім з-за таго, што мала хто сёння чытае ўплывовых людзей і тых, хто прымае важныя рашэнні, — разважае **паэт Андрэй Скарынкін, член Саюза пісьменнікаў саюзнай дзяржавы, намеснік старшыні секцыі паэзіі Саюза пісьменнікаў Беларусі** — З іншага боку, не кожны аўтар, нават таленавіты, можа надрукавацца. І гэта залежыць ад розных прычын — пачынаючы ад густу рэдактара выдавецтва да пэўных палітычных абставін. Ну і, шчыра кажучы, яркіх, прыкметных кніг, такіх, якія можна назваць сапраўднай падзеяй у культурным жыцці Беларусі, асабіста мне апошнім часам не траплялася. Магчыма, я дрэнна шукаў, але часта было так: на просьбу "пакажыце беларускіх аўтараў" прадаўцы ў кнігарні прыносілі кнігі, выдадзеныя ў нашай краіне, але не беларускіх, а сучасных расійскіх пісьменнікаў і паэтаў. На мой погляд, здрабнелі сёння аўтары. Вось, напрыклад, летась мае вершы ажно двойчы надрукавалі ў расійскім "Сучаснику", але ж гэта не таму, што я такі геніяльны, а таму, што вельмі нізкі ўзровень многіх сучасных паэтаў у Расіі. Што ўжо казаць пра нашу краіну! Нам трэба яшчэ расці і расці, каб не замыкацца ў сваім мястэчковым наваколлі".

**ДАРЭЧЫ**

**У маім уласным інтэрнэт-апытанні (37 чалавек) у "Фэйсбуку" і "Вконтакте" "Якія беларускія кнігі вы параілі б пачытаць суайчыннікам?" найчасцей называліся творы Васіля Быкава і Уладзіміра Караткевіча, Івана Шамякіна і Максіма Багдановіча, радзей называліся Якуб Колас, Уладзімір Арлоў, а таксама даследчыкі Павел Шпілеўскі і Людміла Дучыц. Зрэшты, былі таксама варыянты "канстытуцыю Беларусі" і "вершы Быкава", а адзін з удзельнікаў апытання ўвогуле разрадзіўся вершаванай эпіграмай:**

*"Дачытаў я да канца*
*"Вам — заданне" Чаргінца.*
*Аўтар, маю прапанову:*
*Стаў "Канец" пасля назовы!*

> Нават у цэнтральнай кніжнай краме Мінска беларускім аўтарам, літаратуры на беларускай мове або проста пра Беларусь адведзены сціплы закутак, сумешчаны з сувенірным аддзелам.

## "ЧЫТАЦЬ ЁСЦЬ КАГО І ШТО!"

**Паэт, перакладчык і эсэіст, сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў Міхась Скобла** прытрымліваецца іншага меркавання: чытаць заўсёды ёсць каго і што, калі самому не паленавацца, пашукаць годныя кнігі і скласці ўласную бібліятэку.

— Шмат дзе (прынамсі, у

# ГОД КНІГІ

## ДА ВЕДАМА



**Самае дарагое выданне са знойдзеных у сталічных кнігарнях — "Зямля сілы. Белавежская пушча" на беларускай і англійскай мовах, у скураной вокладцы з пазалачоным абрэзам — каштуе 434 тысячы рублёў.**

**Самая дарагая кніга ў свеце — знакаміты "Кодэкс Лестэра" Леанарда да Вінчы, напісаны ў 1506 годзе люстэркавым шрыфтам — набыта на аўкцыёне Білам Гейтсам за 30,4 млн долараў.**

раённых гарадах) кнігарні зачыняюцца або скарачаюцца да мале-е-е-нечкага аддзела ва ўнівермагу. Таму справа ратавання "тапельцаў" — справа рук саміх "тапельцаў". Збірайце ўласную бібліятэку, — кажа ён. — У мяне на кніжных паліцах месца няшмат, і там знаходзіцца толькі тое, што варта чытаць і перачытваць, да чаго рука цягнецца штодня. З гэтага спісу назаву 10 кніг, якія раіў бы прачытаць кожнаму беларусу, хоць насамрэч можна назваць такіх кніг і 100, але ж густы ва ўсіх нас розныя. Таму абмяжуемся, што называецца, выбраным з выбранага. "Ладдзя роспачы" Уладзіміра Караткевіча, кніжка прозы "Цэнтр Еўропы" і кніжка паэзіі "Плошча" Уладзіміра Някляева, паэтычны зборнік Міхася Стральцова "Мой свеце ясны" (на маю думку, гэта адзін з самых гарманічных беларускіх паэтаў). Што яшчэ? Двухтомнік Ларысы Геніюш, зборнік Леаніда Дранько-Майсюка "Гаспода" , апавяданні Янкі Брыля, паэзія Барадуліна — "Евангелле ад Мамы", раман нашай сучасніцы Наталкі Бабінай "Рыбін горад" (шкада, што дагэтуль у нас не знойдзецца свайго Эміра Кустурыцы, які мог бы экранізаваць гэты твор; у яе такая тэмпаральная проза: за адну хвіліну адбываецца адразу 10 падзей, і гэта было б вельмі цікава сучаснаму гледачу). А пад нумарам адзін — "Вянок" Максіма Багдановіча, нядаўна ў пяты ці шосты раз перавыдадзены, але ад таго не менш актуальны зборнік, прыдатны для розных часоў, розных інтарэсаў, рознага ўзроўню ведання мовы і адукацыі чытачоў. Чаму раю менавіта такі набор? У гэтых кнігах я знаходжу і эстэтычную асалоду, і нацыянальны аптымізм, і гарманічнае гучанне слова.

Тым жа, хто жадае сабраць творы ўлюбёных аўтараў у хатняй бібліятэцы, але не мае ў кішэні "залатога запасу", Міхась Скобла раіць не абмінаць букіністычныя крамы. Менавіта там можна прыдбаць рэдкія выданні або, напрыклад, зборнік Караткевіча па цане 2-3 боханаў хлеба.

## ПАКАЗАЦЬ МОЖАМ, РАСКАЗАЦЬ — НЕ?

— Што б вы параілі пачытаць і прыхапіць з сабой замежніку, які наведаўся ў Беларусь? І ці ёсць у нас увогуле выбар "літаратуры для турыстаў"? — спыталася "Тут і цяпер" у галоўнага рэдактара газеты "Турызм і адпачынак" Ліліі Кобзік.

— Паколькі цяпер вельмі развіты тэхналогіі, тая ж інтэрнэт-навігацыя, то мы ўжо істотна адсталі ад часу з выпускам кніжнай прадукцыі для турыстаў. У свой час у Беларусі не хапала добрых якасных даведнікаў, атласаў, а цяпер мы з іх выпускам ужо спазніліся. На мой погляд, Беларусь добра асэнсавана візуальна: у нас шмат мастакоў і фотамастакоў, такіх, прыкладам, як Сяргей Плыткевіч. Адпаведна, выдатна рэалізаваны мастацкі бок прадстаўлення Беларусі, у адрозненне ад вербальнага, магчыма, ідэалагічнага. Не хапае такіх рэчаў, як я бачыла калісьці ў Будапешце, — класных турыстычных даведнікаў, дзе ў простай, даступнай форме падаецца праўда пра горад і краіну: цэны, гатэлі, рэстараны, крамы… Наогул, добры турызм заўсёды прадстаўлены ў простых схемах. Прыкладам, аўдыягіды — калі ты не "прыліпаеш" да экскурсавода, як гэта адбываецца ў нас, а атрымліваеш маленькі навушнічак і, слухаючы голас экскурсавода, глядзіш на тое, што табе больш цікава, можаш адысці ад групы разам з дзецьмі і г.д. У нас такога дагэтуль няма. З'яўляюцца новыя традыцыі, нават абрады, "фішкі", модныя трэнды — зноў жа, трэба падмацаваць усё гэта азнаямляльнай літаратурай, якой у нас таксама няма. Шмат прадстаўнічай літаратуры высокай якасці, падарункавай і сувенірнай прадукцыі, але відавочна недастаткова ўтылітарнай, карыснай для турыста на час знаходжання ў краіне. Тым не менш замежнікам ёсць што павезці з сабой з Беларусі. Я раіла б звярнуць увагу на альбомы "Нечаканая Беларусь" і "Дзікае жыццё ў цэнтры Еўропы", "Праваслаўныя і каталіцкія храмы", даведнік "Мінск за адзін дзень". А колькі яшчэ такіх альбомаў можна было б выпусціць! У тым ліку і такім чынам эфектыўна папулярызаваць Беларусь у свеце.

**ВІКТОРЫЯ ПРАКАПОВІЧ**

## ДАРЭЧЫ

### ЛІЧБЫ НЕ ЦЕШАЦЬ

**За 9 месяцаў 2011 года, паводле звестак Нацыянальнай кніжнай палаты Беларусі, айчынныя выдавецтвы выпусцілі 8090 найменняў кніг агульным накладам 31,5 тысячы асобнікаў. У параўнанні з 2010 годам колькасць найменняў кніг павялічылася на 0,4%, затое наклад паменшыўся на 17,2%.**

**Для параўнання: ва Украіне колькасць найменняў кніжнай прадукцыі ў 2011 годзе зменшылася на 4,5%, а наклад вырас на 8%; у Расіі колькасць найменняў павялічылася на 4,1%, агульны ж наклад зменшыўся на 3,5%.**

# ДАГНАЛА І ЗВАЛІЛА З НОГ

Выпадак адбыўся ў Партызанскім раёне Мінску 17 студзеня.

Крымінальная справа заведзеная 17 студзеня ў Партызанскім раёне Мінска ў дачыненні да 22-гадовага шліфоўшчыка аднаго з прадпрыемства, паведамляе БелаПАН.

Злачынства было ўчынена раніцай 17 студзеня.

У пачатку працоўнага дня 20-гадовая касір адной з мінскіх крамаў звярнула ўвагу на двух п'янаватых хлопцаў, якія знаходзіліся ў гандлёвай зале.

Іх паводзіны падаліся дзяўчыне падазронымі, бо хлопцы стаялі вельмі блізка адзін да аднаго і закрывалі агляд. Затым маладыя людзі выйшлі з-за стэлажа з напоямі і скіраваліся да касы. Адзін з хлопцаў прайшоў праз пункт разліку, дэманструючы змесціва свайго пакета, і паведаміў, што ў ім нічога няма, а яго таварыш стаў у чаргу.

Калі малады чалавек праходзіў міма, дзяўчыне падалося, што ён схаваў пад курткай пляшку гарэлкі. Яна паклікала кліента, але малады чалавек адказаў, што нічога не браў і рвануў да выхаду.

Зачыніўшы касу, працаўніца крамы кінулася следам, дагнала рабаўніка, паваліла яго на зямлю і запатрабавала вярнуць скрадзенае.

Зразумеўшы, што збегчы не атрымаецца, хлопец аддаў тавар і разам з касірам дачакаўся прыбыцця міліцыі.



# ДАЗВОЛ... З ПЯТАГА РАЗУ

**Калі надумалі пагуляць у снежкі, то вывучайце прагноз надвор'я на два тыдні і рыхтуйцеся заплаціць міліцыі за ахову грамадскай бяспекі.**



*Цяпер і ў сняжкі гуляць трэба моцна падумаўшы*

У Мінску ўжо адбылося некалькі флэшмобаў, дазволеных па законе "больш за тры не збірацца". Еўрарадыё даведалася ў арганізатараў, ці лёгка атрымаць такі дазвол.

*"Першае наша ўзгодненае мерапрыемства — free hugs. Заяўку падавалі 4 ці 5 разоў — што называецца, прыстрэльваліся,* — распавядае Еўрарадыё адзін з удзельнікаў флэшмобу кіраўнік МГА "Авангард" **Марат Абрамоўскі**. *— Там па форме вельмі бюракратычная сістэма, шмат нюансаў па ўзгадненні месца, часу… Нам адмаўлялі, адмаўлялі, а пасля ўсё ж далі дазвол. А такога, што трэба пайсці ў той кабінет, у той і ў той, і тады флэшмоб дазволяць, там няма".*

Дазвол на любую масавую акцыю трэба атрымаць не пазней як за два тыдні. Часам сапраўды даходзіць да абсурду, як у выпадку з флэшмобам "Снежныя войны", удзельнікі якога сабраліся 15 студзеня, каб пагуляць у снежкі.

*"Добрае зімовае надвор'е ўсталявалася ў чацвер — пятніцу. Натуральна, проста не было часу нічога ўзгадняць. А па-другое, ну падумайце: мы пададзім заяўку, а праз два тыдні снегу ўвогуле можа не быць",* — працягвае Марат Абрамоўскі. Летась ён атрымаў трое сутак за "нелегальны" флэшмоб "Мокрыя войны" — летні аналаг "Снежных войнаў".

Як даведалася Еўрарадыё, дазвол на флэшмоб трэба яшчэ ўзгадніць з міліцыяй. А ў выпадку неабходнасці — і з МНС, але тут ёсць нюанс.

*"З гарвыканкамам складаецца дамова, і робіцца аплата тых сіл і сродкаў, якія будуць задзейнічаны пры ахове мерапрыемства",* — тлумачыць прэс-сакратар мінскай міліцыі **Аляксандр Ластоўскі**.

На пытанне, колькі каштуе суправаджэнне флэшмобу міліцыяй (!), Аляксандр Ластоўскі не адказаў. А Марат Абрамоўскі адзначае, што, хаця і заключаў дамовы з міліцыяй, ні падчас free hugs, ні падчас флэшмобу "Кітайскія ліхтарыкі" на плошчы Бангалор ніякіх грошай міліцыянты не патрабавалі.

На думку Марата, у справе дазволу флэшмобу вялікае значэнне мае тое, хто падае заяўку. Маўляў, калі асоба "заангажаваная", то ёй мерапрыемства правесці не дазволяць.

Такога ж меркавання прытрымліваецца і моладзевая актывістка **Наста Палажанка**. Таму "Малады фронт" не спрабаваў атрымаць ніякіх дазволаў на свае вулічныя акцыі.

Наста Палажанка: *"Гэты закон, у прынцыпе, не мае ніякага значэння для нашых моладзевых актывістаў ці для тых людзей, якія прымаюць удзел у масавых мерапрыемствах. Раней затрымлівалі людзей дзеля адміністрацыйных арыштаў, прыпісваючы ім тэрміны за дробнае хуліганства. Цяпер будуць затрымліваць паводле гэтага закона. Абсалютна ўсё роўна, паводле якога артыкула адседжваць той жа самы арышт на Акрэсціна".*

Пад гэтымі словамі гатовы падпісацца і **Дзяніс Садоўскі**, адказны сакратар "Беларускай хрысціянскай дэмакратыі".

Дзяніс Садоўскі: *"Літаральна тыдзень таму праводзілі флэшмоб у абарону сям'і і дзяцей. Распаўсюджвалі сярод студэнтаў кніжачкі пра сямейныя каштоўнасці, супраць абортаў. Акцыя доўжылася каля гадзіны ля Акадэміі навук і на Нямізе. Затрыманы ніхто не быў, нягледзячы на тое, што дазволаў не бралі. Бо гэты закон уведзены не для таго, каб дазваляць флэшмобы і неяк дапамагаць у іх правядзенні, а каб забараняць".*

А вось другі сакратар ЦК БРСМ **Альбіна Сычэўская** распавяла Еўрарадыё, што свае акцыі яны праводзяць выключна з дазволу ўлад.

Альбіна Сычэўская: *"У нас ва ўсіх раёнах праводзяцца тэматычныя флэшмобы, прымеркаваныя да розных мерапрыемстваў. Як адзін са складнікаў мерапрыемства — флэшмоб. За апошні час: "Я люблю Беларусь", "Я люблю Мінск". Такія флэшмобы праводзіла мінская гарадская арганізацыя. Мы законапаслухмяная арганізацыя, падаём у выканкам заяўку ва ўстаноўлены тэрмін, характарыстыку мерапрыемства. Усіх патрабаванняў, што прадугледжаны законам, мы прытрымліваемся".*

**ПАВЕЛ СВЯРДЛОЎ**



**Заснавальнік** ТАА "Тут і цяпер" **Адрас** г. Мінск, вул. Касцюшкі, 18
**Галоўны рэдактар** А. Уласаў (email: info@svabodaby.net) **Падпісана ў друк** 22:45 19.01.12
Тыраж 299 экзэмпляраў